**№110 (1923)**

Пятніца , 18 чэрвеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +9...+11, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +11...+13, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +8...+10, дождж; у Гомелі ўдзень — +19...+21, уначы — +10...+12, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +10...+12, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў.

*www.meteo.by*



SOS!

*Зінаіда БАНДАРЭНКА:*

# «Я малюся за іх!»

## *Галадоўка: дзень шаснаццаты*

***Нягледзячы на шматлікія звароты спыніць галадоўку, адрасаваныя яе ўдзельнікам, акцыя пратэсту працягваецца. Акрамя дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Валерыя ФРАЛОВА, Уладзіміра ПАРФЯНОВІЧА і Сяргея СКРАБЦА, а таксама актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі і Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" Марыны БАГДАНОВІЧ, Генадзя АНАНЬЕВА, Уладзіміра ЧЫРВОНЕНКІ, Юрыя ІСТОМІНА, Уладзіміра РАДЗІВОНЧЫКА і Віктара ІВАШКЕВІЧА (г. Мінск) у Беларусі галадаюць Зміцер ЧАРТКОЎ (г. Жодзіна), Уладзімір ЦЫБУЛЬСКІ, Аляксандр ЦЯРЭНЦЬЕЎ і Ігар СУХАРУКАЎ (г. Наваполацк), віцябчане Эла КАНАВАЛАВА, Фёдар БАКУНОЎ, Таццяна ЗАЙКОВА, Іна СЯТКОЎСКАЯ, Лідзія ФРАНЦАВА, гамяльчанін Віктар КУРЛУКОЎ.***



На чарговай прэс-канферэнцыі, якія ладзяцца штодзень ля пад'езда дома на зав. Казарменным у Мінску, Валеры Фралоў заявіў, што, згодна з яго інфармацыяй, 26 чэрвеня можа быць зменена мера стрымання Міхаіла Марыніча. (Нагадаем: адно з патрабаванняў галадоўшчыкаў — вызваліць з-за кратаў Марыніча). Са слоў генерала не вынікала, ці працягнуць галадоўшчыкі сваю акцыю ажно да 26 чэрвеня (не трэба мець медыцынскай адукацыі, каб зразумець, што да гэтага дня можа здарыцца трагедыя!). На пытанне аб спыненні галадоўкі генерал-дэпутат адказаў, што на іх "палітбюро" гэта пакуль не разглядалася.

Фралоў пажартаваў пра парадкі ў "палатцы", што тычацца атрымання там заробкаў. *"Днямі быў дзень палучкі ў парламенце,* — сказаў В. Фралоў, — *мая памочніца доўга сядзела, чакала, пакуль грошы выдавалі. Хтосьці ўсё кудысьці тэлефанаваў, нешта ўдакладняў — даваць нам грошы альбо не. Так і не вырашылі... Ну, калі не дадуць, мы проста напішам заяву: няхай аддадуць тыя грошы людзям, якія маюць патрэбу"*.

Валеры Фралоў з захапленнем распавёў пра 80-гадовую жанчыну Ігнацьеўну, якая на сваю жабрачую пенсію набыла пяць кніг доктара Канавалава пра галаданне і прынесла іх на Казарменны завулак. А потым павярнуўся да аб'ектыва камеры Беларускага тэлебачання і перадаў прывітанне ... Лукашэнку: *"Я ведаю, Аляксандр Рыгоравіч, што вы кожны дзень глядзіце тэлезапісы з галадоўкі* (у адрозненне ад тэлегледачоў, якім іх не паказваюць, — **А.С.**). *Спадзяюся, хутка мы ўбачымся і зможам абмеркаваць усе праблемы,* — выказаўся В.Фралоў.

Дэпутат Сяргей Скрабец дадаў, што здароўе галадоўшчыкаў за апошнія дні пагоршылася — *"зноў прыйшлося выклікаць "хуткую дапамогу". Галадаць, канешне, цяжка"*. На пытанне як успрынялі яны наведванне галадоўшчыкаў замежнымі пасламі С.Скрабец адказаў: *"Мы лічым, як і нашы высокія госці, якія раілі спыніць галадоўку, што нам трэба скіроўваць усе сілы для працы на карысць краіны. Але ... прыпыніць галадоўку пакуль не можам". "Здохнуць, па праўдзе, не хочацца,* —- эмацыйна падключыўся В. Фралоў, — *асабліва калі ўлічыць, што планаў у нас "громадзьё"*.

Кожны дзень генералу Фралову перадаюць стос лістоў ад грамадзян. Сам дэпутат іх чытаць усе не паспявае, — дапамагаюць паплечнікі. Кожны дзень нясуць кветкі — увесь балкон застаўлены. Больш за ўсіх іх прызначана адзінай жанчыне-галадоўшчыцы Марыне Багдановіч, але і мужчынам перападае. *"Можа, Марына калі-небудзь і атрымлівала столькі кветак, а я — не",* — жартуе В. Фралоў...

Напярэдадні, у сераду, прыйшло трывожнае паведамленне ад галадоўшчыкаў з Віцебска. Дзень пачаўся з таго, што адна з удзельніц галадоўкі, Лідзія Францава, адчула сябе блага і выйшла на свежае паветра. *"Неўзабаве,* — як сцвярджаецца ў прэс-рэлізе дэпутацкай групы "Рэспубліка", — *яна згубіла прытомнасць, і прахожыя выклікалі "хуткую дапамогу". Яе сяброўкі папрасілі ў медыкаў дазволу паехаць разам з Л. Францавай у бальніцу. Пакуль яны зачынялі кватэру, "хуткая" вельмі хутка з'ехала. Прыблізна паўтары гадзіны паплечнікі Лідзіі Францавай званілі ў медыцынскія ўстановы горада, каб даведацца, куды яе адвезлі. Пошукі былі безвыніковымі. А неўзабаве медыкі паведамілі, што Л. Францаву адвезлі ў... псіхіятрычную бальніцу. Але і там яе не аказалася. Праз паўтары гадзіны Францаву знайшлі ў гарадской бальніцы, адкуль яе сапраўды хацелі адправіць у псіхіятрычку... На якой падставе — невядома, як і тое, хто стаяў за гэтым, бадай, дэтэктыўным сцэнарам. Сябрам Лідзіі Францавай літаральна ў апошнюю хвіліну ўдалося забраць яе дамоў"*.

Водгукі на гэтую агульнарэспубліканскую галадоўку прыходзяць з боку вядомых і невядомых грамадзян Беларусі. Вось толькі некаторыя з іх:

**Зінаіда Бандарэнка,** народная артыстка Беларусі:

*— Я вельмі ўзрушана ўчынкам гэтых людзей — галадоўшчыкаў. Толькі б яны вытрымалі!... Здзіўляе і тое, што галадоўка не кранае нашы ўлады, што дэпутаты парламента ўнеслі пытанне аб змяненнях у Выбарчы кодэкс толькі на 22 чэрвеня. Да гэтага часу здароўе галадоўшчыкаў можа быць сур'ёзна падарвана. Хочацца пажадаць здароўя, духоўных і фізічных сіл гэтым мужным людзям. Я малюся за іх! За кожнага...*

*Лічу, што яны пайшлі на апраўданую рызыку. Гэтая падзея застанецца ў гісторыі. Можа, і наша застойнае балота нейкім чынам удасца ўскалыхнуць.*

**Анатоль Лябедзька,** старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП):

*— Сённяшняя галадоўка паказвае, наколькі палярным стала наша грамадства. З аднаго боку, толькі на офіс АГП штодзённа прыходзяць сотні лістоў падтрымкі ад жыхароў Беларусі. Гэта не проста подпісы "ў падтрымку", гэта вельмі эмацыянальныя, напісаныя з любоўю лісты. У адным лісце нават літары размыты слязамі. Як вядома, патрабаванні галадоўшчыкаў маюць палітычны характар, і многія баяцца адкрыта іх падтрымоўваць. І сёння як ніколі раней пачынаеш разумець, што сённяшняя сістэма забівае ў людзях грамадзянскую пазіцыю...*

**Генадзь Коп'еў,** грамадзянін Беларусі:

*— Стаўленне да людзей, якія абвясцілі галадоўку, самае паважлівае. Крыўдна, што многія проста не ведаюць пра галадоўку. Чаму б не наладзіць ланцуг нераўнадушных людзей у падтрымку патрабаванняў галадаючых?... Я ўжо некалькі дзён прыходжу да іх, стараюся хоць нечым дапамагчы, вось сёння мыла гаспадарчае ім прынёс...*

Як вядома, яшчэ ў аўторак кіраўніку дзяржавы быў адпраўлены ліст ад галадаючых дэпутатаў, поўны тэкст якога друкавала "Народная воля". У сераду, па падліках прэс-службы дэпутацкай групы "Рэспубліка", ліст павінен быў легчы на стол А.Лукашэнкі. У чацвер Аляксандр Рыгоравіч адправіўся ў Астану (Казахстан) на пасяджэнне ЕўраЗЭС. Наконт таго, ці прачытаў ён пасланне ад Фралова і, што самае галоўнае, ці збіраецца на яго рэагаваць, прэзідэнцкая прэс-служба маўчыць.

Цяпер аб медыцынскім баку галадоўкі. **Уладзімір Чырвоненка,** доктар, які галадае разам з іншымі, пазнаёміў "Народную волю" з вынікамі апошняга медагляду на поўдзень 17 чэрвеня: *"Усё застаецца пакуль, як і было ў мінулыя дні, скаргаў асаблівых няма"*. Што ж, як кажуць англічане, адсутнасць навінаў — гэта ўжо добрая навіна!

Некаторыя калегі Фралова, Скрабца і Парфяновіча з Палаты прадстаўнікоў, якія не ўдзельнічаюць у галадоўцы і з'яўляюцца суседзямі па доме, усё яшчэ цягнуць незразумелую паўзу, не выказваюцца ўслых (а толькі паціскаюць руку пры сустрэчы). Дзе ж іх карпаратыўная салідарнасць? Яны, мусіць, альбо вырашылі згуляць у маўчанку, альбо дружна ўпалі ў спячку. Мядзведзі, як вядома, таксама зімой упадаюць у спячку. Але ж зараз не зіма!

**Алесь СІЛІЧ.**
**Фота photo.bymedia.net.**

**P.S.** *Як стала вядома ў апошнюю хвіліну, акцыю галадоўшчыкаў вырашылі падтрымаць прадпрымальнікі Беларусі. Учора, 17 чэрвеня, яны распачалі агульнанацыянальную акцыю пратэсту. Як паведаміў на спецыяльна скліканай прэс-канферэнцыі старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Перспектыва" Анатоль Шумчанка, з учарашняга дня, вылучаючы "не толькі эканамічныя, але і палітычныя патрабаванні", прыпынілі працу ў Мінску рынак у Ждановічах, на 80% — рынак "Дынама".*

*Як сцвярджае А.Шумчанка, не працуюць рынак у Бабруйску, тры рынкі ў Пінску ("Центральный", "Звездный" і "Солнечный"), рынкі ў Жодзіне, Лепелі, Рэчыцы, Светлагорску і г.д. Зараз на прадпрымальнікаў, асабліва ў Мінску, паведаміў ён, з боку ўладаў ідзе моцны ціск. Тым, хто не выходзіць на працу, пагражаюць скасаваннем кантракту.*

ПИСЬМО ИЗ-ЗА ОКЕАНА

*Джон МАККЕЙН, сенатор:*

## «Вы вдохновляете всех, кто любит демократию!»

Дорогой генерал Фролов!

Я узнал о Вашем недавнем решении начать голодовку протеста против действий режима Лукашенко. Вы вместе с Вашими коллегами из группы "Республика", Белорусского Народного Фронта и Объединенной гражданской партии являетесь замечательным примером моральной смелости и решимости. Вы вдохновляете всех, кто любит демократию, и нас в США, кто выражает солидарность с Вами.

Ваши усилия по освобождению Михаила Маринича из тюрьмы, по изменению законодательства, которое бы обеспечивало справедливые выборы, и к предотвращению попыток Лукашенко манипулировать Конституцией, — все это иллюстрирует благородство Ваших действий. Ясно, что Вы достигнете результата. Президент Лукашенко боится вашей группы и продемократических сил Беларуси.

На прошлой неделе мы простились с Рональдом Рейганом, человеком, который посвятил свою деятельность на посту президента борьбе за свободу и демократию для всех людей. Ваша борьба за свободу также вызывает нашу поддержку. Вы остаетесь в наших мыслях и молитвах.

Желаю удачи, мой друг, и так как Вы продолжаете Вашу борьбу, никогда не забывайте, что мы мысленно с Вами. Желаем Вам победы в Вашей борьбе за честь, демократию и лучшую жизнь для белорусского народа.

**Искренне Ваш,**

**сенатор США**
**Джон Маккейн.**

*КОНКУРС*

## Польшча — прыязная суседка Беларусі

**Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь аб'яўляе V конкурс для журналістаў "Польшча — прыязная суседка Беларусі". У конкурсе могуць прыняць удзел журналісты, якія да 20 снежня 2004 года вышлюць на адрас Пасольства РП копіі публікацый, а таксама радыё- і тэлематэрыялаў (з указаным месцам і датай публікацыі) за 2004 год на наступныя тэмы:**

*— Сучасная Польшча.*
*— Супольная гістарычная спадчына Беларусі і Польшчы.*
*— Значэнне членства Польшчы ў Еўрапейскім Саюзе для інтэграцыі Беларусі з Еўропай.*
*— Польскія органы самакіравання як падмурак рэгіянальнага дэмакратычнага развіцця.*
*— Роля свабодных сродкаў масавай інфармацыі і пазаўрадавых арганізацый у Польшчы.*
*— Польска-беларускае эканамічнае супрацоўніцтва.*

*Матэрыялы просім высылаць на адрас:*
**220034 Мінск, вул. Румянцава, 6 з паметкай: "Конкурс".**

*Узнагароды:*
першае месца — 250 долараў ЗША;
два другія месцы — 200 долараў ЗША;
тры трэція месцы — 150 долараў ЗША;
5 прэмій — 100 долараў ЗША;
10 прэмій — 50 долараў ЗША.

**Прэс-служба Пасольства.**

# Требования граждан Беларуси к Национальному собранию

Мы, граждане Беларуси, выражаем свою солидарность с требованиями голодающих депутатов Валерия Фролова, Сергея Скребца и Владимира Парфеновича, а также представителей Народной коалиции **"5+"** Марины Богданович, Геннадия Ананьева, Владимира Червоненко, Юрия Истомина, Владимира Радивончика, Виктора Ивашкевича, Эллы Коноваловой, Инны Сятковской, Татьяны Зайковой, Федора Бокунова, Лидии Францевой, Александра Терентьева, Игоря Сухорукова и Владимира Цыбульского. Они выступили в защиту справедливости и наших интересов. Чтобы не допустить обмана избирателей, сделать выборы свободными и справедливыми, они требуют изменения избирательного законодательства. Мы поддерживаем их требования и призываем депутатов Национального собрания незамедлительно принять предложенные ими поправки в Избирательный кодекс.

| Ф.И.О | Место жительства | Подпись |
|---|---|---|
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |
| | | |

*Уважаемые граждане!*

*Заполненные анкеты отправляйте в офис Объединённой гражданской партии (по мере поступления они будут передаваться в Национальное собрание Республики Беларусь).*

*Адрес: 220123, г.Минск, ул. В. Хоружей, 22, каб.1701. Телефон для справок: 289-50-09.*

## Кватэры для ветэранаў

*Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне накіраваць з гарадскога бюджэту сродкі на будаўніцтва ў сталіцы 215 кватэр для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.*

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў гарадской адміністрацыі намеснік старшыні гарвыканкама Вячаслаў Кушнер, у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў у Мінску знаходзяцца больш за 1.000 ветэранаў, для якіх за апошнія пяць гадоў было пабудавана не больш за 200 кватэр. Сёлета ў горадзе спачатку планавалася пабудаваць 65 кватэр для гэтай катэгорыі грамадзян, але ў пачатку чэрвеня было прынята рашэнне аб выдаткаванні сродкаў на будаўніцтва ў мікрараёне Чырвоны Бор двух дамоў на 150 кватэр. Больш за тое, за кошт сродкаў гарадскога бюджэту прадугледжваецца ўзвесці яшчэ 300 кватэр, што, як сказаў В.Кушнер, "дазволіць нам выканаць свой абавязак перад ветэранамі".

Намеснік старшыні гарвыканкама зазначыў, што ў цэлым рэзкае павелічэнне аб'ёмаў будаўніцтва жылля стала асноўным пытаннем сацыяльнай палітыкі на гэты год, бо сваёй чаргі на атрыманне кватэр чакаюць 134 тысячы сем'яў.

**Лавінія АРЭШКА.**

## У гонар 80-годдзя Васіля Быкава

*18 чэрвеня, пятніца, 18.00*

Вечарына Саюза беларускіх пісьменнікаў у гонар Вялікага творцы (Дом літаратара, вул.Фрунзе, 5).

*19 чэрвеня, субота, 12.30*

Ушанаванне магілы Быкава на Усходніх могілках. (Станцыя метро "Усход", выхад у бок вул. Каліноўскага).

**Управа Партыі БНФ.**

*Светлана АЛЕКСИЕВИЧ*

# Новые маски зла

*Этот материал известная писательница Светлана АЛЕКСИЕВИЧ написала специально к открытию Европейской женской академии, которая уже в третий раз проводилась в Минске. К сожалению, сама С.Алексиевич в Минск приехать не смогла, поэтому данный текст был озвучен заочно. Полагаем, что он представит интерес и для читателей "Народной воли".*

В течение десяти лет я писала свою книгу о Чернобыле, самом необычайном событии XX века. Отныне мы навсегда оставили мечту о будущем без зла, о лучшем будущем: мы живем в мире, где повсюду находят следы воплощения ЗЛА, где ЗЛО облекается в новые маски, где Манхеттен становится в один ряд с Чернобылем...

В течение всех десяти лет я писала дневник, некоторые отрывки из которого вошли в мою книгу **"Чернобыльская Молитва",** а несколько других никогда не публиковались. Этот дневник представляет собой ценнейшее свидетельство всего пережитого и чувств, которые испытали люди в первые дни и месяцы после катастрофы... Свидетельство встречи человека-предшественника Чернобыля с человеком Чернобыля.

"Горит ядерный реактор... Правительственные газеты долго хранили молчание, а теперь они бессовестно лгут. Лозунги и призывы победить мирный атом в духе Второй мировой войны, несмотря на полувековую дистанцию, зазвучали снова. Газеты запестрели заголовками: *"Атом побежден", "Подвиг Чернобыля", "Как закаляется советский характер"* и другие. А параллельно тайком слушаем трансляции американского Радио Свобода и обмениваемся информацией, шепотом, на ушко. Бегаем по аптекам в поисках йода: эти рекомендации даются по радио, но никак не нашими медиками. Последние советуют не поддаваться панике и не верить информации "вражеского радио". В то же время все прекрасно знают, что некоторые из них принимают необходимые меры защиты у себя дома и рекомендуют их своим близким. Что же случилось с клятвой Гиппократа? Один мой друг заметил: *"У нас нет ни докторов, ни учителей, ни ученых, ни журналистов, у нас есть только одна профессия — советский человек..."*.

Нас запустили в космос, в новую реальность. Но мы всегда остаемся сами собой.

Вчера мне позвонил мой отец (он преподавал историю в течение 40 лет в одной сельской школе): *"Это несомненно диверсионная работа секретных западных служб. КГБ ведет уже расследование по случившемуся на ЧАЭС. Шпионы и саботажники будут найдены. Советское правосудие их накажет"*.

Мой дорогой папа... С ним, конечно, можно поговорить о молодом саде, который он посадил этой весной, но никак не о правительстве; о рыбной ловле и о Петре Великом, но не о коммунизме; о жизни и смерти вообще, но не о том, что с нами сейчас происходит.

Папа и мама живут в деревне, которая находится в 100 километрах от Чернобыля...

На этой неделе я услышала, как одна соседка, женщина-инженер, рассказывала жителям нашего дома: *"На товарной станции в вагоны грузят трупы сгоревших людей и животных. Это необычные трупы, не черные, а розовые. Их вывозят в Сибирь и там хоронят"*.

Каким-то странным образом к нам возвращается прошлое: во времена Сталина в Сибирь отправлялись вагоны с заключенными, чтобы заполнить ими ГУЛАГи.

Самый интересный вопрос во время одной из моих поездок в зараженную зону был задан мне мальчиком 5 лет: *"Извините, пожалуйста, Вы пишете книги и сами прочитали много книг. Скажите, у рыб будут дети? Смогут ли птицы иметь своих птенчиков? И наша корова Роза, родит ли она своего теленка?"*.

Захваченные врасплох, мы были вытолкнуты в новую реальность. Как объяснить то, чего мы не могли представить.

Еще совсем недавно официальная пропаганда провозглашала: *"Благотворное действие мирного советского атома — в каждый дом!"* Сегодня этот клич стал уже ужасающей действительностью. Академик Александров, "отец" наших атомных электростанций, часто повторял (и мы в это верили), что каждая атомная электростанция надежна до такой степени, что можно было бы их построить в центре Москвы, на Красной площади. Эти станции, — говорил он, — были так же безопасны, как и самовары, и также легки в эксплуатации.

Мы боялись ядерной войны, ядерной бомбы. Никто еще и не подозревал, что военный и мирный атом были союзниками, заговорщиками. Сегодня ясно было одно: образ врага изменился. Несмотря на все наши попытки спрятаться, включая нас самих, больше уже ничто не сможет нас защитить. Ни одна технология не послужит нам щитом. Катастрофы не являются больше продуктом случая, они — продукт нашей цивилизации.

В книгах и кино часто показывали Апокалипсис, но реальность оказалась более фантастической. Во время моего первого пребывания в зараженной зоне я вдруг поняла, что боюсь всего того, что ранее было добрым и безобидным. Я боялась съесть яблоко, прислониться к дереву, присесть на траву. Все было, как раньше, — формы, цвета, запахи, названия — но это был уже иной мир. Иное пространство. Мир, в котором все могло меня убить: земля, вода, ягоды, дождь... ветер... Я находилась в противостоянии новым ликам зла. Смерть бродила вокруг, наряженная в одежды, которые я не знала. Она пряталась... И весь наш прошлый опыт страха становился бесполезным. Все наши средства защиты были бессильны: это зло, его нельзя было потрогать, увидеть, услышать, понюхать, почувствовать, попробовать — наши глаза, наши уши, наши пальцы не могли ничего поделать. Смерть просочилась повсюду. Она была королевой.

Реальность исчезает, скрывается. Как понять, где мы находимся. Что здесь происходит... сейчас... с нами... со мной...

Можно было бы выразить одним словом, что мы переживаем в этот момент: страх. Страх — это кто-то, кто живет в нас отдельным существом, незнакомец. Страх — это возможность очутиться вне границ нашей жизни, традиционной физики, культуры. Во время моих путешествий при встречах с людьми, в разговорах, я слышу одно и то же: *"Я никогда не читал ничего подобного", "Никто никогда мне об этом не говорил", "Я никогда не видел такого даже в кино"*. Должностные лица в компартии от самых высоких до самых низких, генералы и полковники, солдаты, ученые, медики — все в замешательстве.

Я предпочитаю разговаривать с детьми или со старыми крестьянами — спонтанными поэтами и философами, чей внутренний мир лучше выносит испытания.

Для нас сила заключается в признании того, что мы находимся на высоте происходящих с нами событий. Прошлое, которое казалось нам надежным источником (неким универсальным архивом), стало внезапно бессильным. Многие люди ищут утешения в молитвах... Храмы наполнены людьми...

Я прочитала в одной газете, что через 4 дня после катастрофы тучи Чернобыля проплывали уже над землей Африки и Китая. Земля вдруг стала такой маленькой...

Повсюду я слышу абсолютно новые слова. В автобусе, в метро, на своей лестничной площадке. Мы смиряемся с новой реальностью. Я начинаю понимать, что я ее преследую, как детектив. Я слушаю, спешу все записать, мой слух постоянно напряжен, у меня даже иногда возникает впечатление, что я вся целиком стала большим ухом.

Важность того, что происходит, не оставляет никаких сомнений. Две катастрофы произошли в одно и то же время: катастрофа космическая, в Чернобыле и другая — историческая, "потопление" гигантского социалистического континента. Эту, последнюю, легче всего понять, она в распоряжении обычного человека. Бесконечно дискутируют об инфляции, повышении цен, о Ленине (был ли он преступником или русским идеалистом), о Марксе (был ли он прав или нет). Чернобыль же является новой темой, так как в первый раз человек противостоит космосу.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ДА 80-ГОДДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА

*Данута БІЧЭЛЬ*

# Настаўнік і сябра

*(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)*

Найлепей было размаўляць з Васілём, сустрэўшы яго на вуліцы, калі ён нікуды не спяшаўся. Такіх вулічак з ціхімі дворыкамі тады ў Гродне было шмат, цяпер яны неяк ператварыліся ў прахадныя скразнякі.

Мог Быкаў вылепіць з мяне нешта цікавае ў творчым плане, меў на мяне моцны ўплыў. Не меў патрэбы, не накіраваў мой творчы пошук, толькі назіраў збоку. І ўсё ж дапамог мне. Напачатку падтрымаў у тым, што адпавядала майму характару: паэтцы трэба сядзець ціха ў куточку за сталом і пісаць...

Не ўмела я, хутаранка, даражыць прыхільнікамі майго таленту, не берагла сваіх чытачак — Васіль напрарочыў, што пры жыцці не будзе ў мяне як паэткі прызнання. Змірылася з гэтым, што пазбавіла мяне амбіцый. Адступала ўсё жыццё ў цень, уступала іншым. І з рэжымам я не змагалася, а рабіла выгляд, што яго не заўважаю.

Васіль назваў неяк мяне свойскім хлопцам, "клікуха" адпавядае маёй бабскай няўдаласці. Я не ўмела глядзець на мужчын так, як умеюць гарадскія паненкі. Гаворка вачамі — гэта не мой талент.

Ён мяне, як свойскага хлопца, браў у паездкі ў калгасы, дзе быў дэпутатам раённага ці абласнога Савета. Запрашаў у Друскенікі, дзе лячыўся Алесь Адамовіч. Казаў: "Карпюк не п'е, а ты свойскі хлопец". Я іх ціха слухала. Калі пачыналі раскручваць свае сюжэты-страшылкі, я нічога не магла там сказаць. За сталом у якім-небудзь рэстаранчыку яны гаварылі пра камуністычную карычневую чуму, якая страшней фашыстоўскай.

Ездзілі мы ў Друскенікі, калі там лячыўся Рыгор Бярозкін, гэты выдатны майстар вуснага жанру. І ў Геніюшаў у Зэльве размаўлялі Васіль з Янкам Геніюшам, Ларыса Антонаўна зрэдку ўкліньвалася ў іх дыялог, калі трэба было адкарэкціраваць погляды Янкі. На юбілей паэткі, куды з'язджалася ўся інтэлігенцыя (ці апазіцыя) не толькі з Беларусі, але і з Украіны, Літвы, Васіль не ездзіў, але купіў куфэрак за свае грошы і заказаў гравіроўку. А ўсе гродзенскія аўтары паклалі ў куфэрак свае танюткія кніжкі.

На Дні літаратуры на Гродзеншчыне я вырывалася двойчы. А так далучалася да іх, калі з'язджаліся ў Гродна. Саромна і сумна ўспамінаю адзін вечар у рэстаране "Беласток", калі я там была новым чалавекам, а госці за тыдзень адзін аднаму надакучылі. Падымалі тосты за Дануту, чым крыўдзілі прысутную Еўдакію Лось, аж Быкаў, які сядзеў каля мяне, сказаў: "Сёння ўсе ўшацкія хлопцы п'юць за Дануту". Еўдакія пайшла з тае гасціны раней. І мне сорамна перад ёю ўсё жыццё...

Скульптар Аляксандр Ліпень, які таксама прайшоў усю вайну і дэмабілізаваўся і прыехаў з цэнтральнай Беларусі ў Гродна недзе ў 1956 годзе, успамінае, як ён упершыню ўбачыў Васіля Быкава. Ліпень жыў на вуліцы Леніна. За яго домам быў агарод, які злучаўся плотам з агародам дома з вуліцы Чапаева. На той вуліцы меў кватэру (прыватна) Васіль Быкаў. Ліпень маляваў з натуры вяргіні. Быкаў праз плот назіраў. Калі сустрэліся вачыма, Быкаў спытаў: "Я вам не перашкаджаю? Вы мастак?" Ліпень працаваў у гарачым цэху на ТЭЦ-1, мастацтвам займаўся як аматар. І сказаў: "Я скульптар, а малюю так, для душы". — "А ці можна паглядзець вашы скульптуры?" ...Скульптуры былі ў драўлянай пуньцы тут жа, у агародзе. Быкаў агледзеў іх і здзівіўся: "А навошта вы Леніна лепіце?" — "А без Леніна на выставу не бяруць"... Яны тады так і не пазнаёміліся. Але праз нейкі час спатканіся ў кабінеце чыноўніка ад культуры, які сказаў Ліпеню: "Знаёмцеся, гэта Васіль Быкаў, карэспандэнт "Гродзенскай праўды"...

Калі Васіль памёр, у тралейбусе мяне зачапіла адна лекарка, тэрапеўт. Кажа: "Я была яго лечашчым урачом". Кажу: "Раскажыце, як вы яго лячылі?" Яна: "А ён не прыходзіў у паліклініку зусім, мы запрашэнні яму пасылалі, каб прыйшоў на праверку, а ён не прыходзіў..."

Астму Васіль лячыў у славутага народнага лекара, які рабіў спецыяльную мяшанку з зёлак і шмат чаго яшчэ. Здаецца, Малочка (або Талочка) яго прозвішча...

Я не памятаю дакладна, як першы раз убачыла Васіля Быкава. Са мной ён размаўляў толькі на беларускай мове, вусная мова яго была такой жа добрай, як пісьмовая. Гэта няпраўда, што ў яго не было свайго стылю. Але ацэньваць прозу Быкава з боку стылю не мае сэнсу — пад высакавольтнай напругай яго сюжэту не заўважаецца стыль мовы.

Калі пачынаюць казаць, што Быкаў не ўмеў выступаць перад слухачамі, то маюць на ўвазе той факт, што Быкаў не спускаўся да ролі блазна, чаго часта чакае дрэнная публіка ад беларускіх пісьменнікаў, як пісьменнікаў народа-парабка. Быкаў успрымаў людзей паважна і да сябе патрабаваў павагі...

Запрасіла неяк Васіля ў школу рабочай моладзі, дзе я выкладала мову і літаратуру. Ён прыйшоў. Вучні прачыталі аповесць і паспрабавалі выказаць свае думкі так, як бачылі падобнае ў тэлевізіі... Хваляваліся. Прыбег завуч на кантроль. Быкаў па дарозе ў школу зайшоў за зубнога і вырваў зуб. Калі замарозка пачала адыходзіць, ён крывіўся, бо балела. А завуч вырашыў, што Быкаву не падабалася, што вучні "вучаць" яго, як трэба пісаць. Атрымала ад завуча вымову...

Быкаў добра ведаў гісторыю Гродна, але не хваліўся гэтым. У вершы я зачапіла імя свайго святога-апекуна, пра якога я толькі ведала, што фрэскі ў Фарным касцёле паказваюць дзейнасць гэтага святога, а яго скульптура ў алтары ў цэнтры. Васіль ведаў значна болей: што ён з Іспаніі, што паехаў у Індыю, што там пахаваны. Так, мімаволі, ён расказаў пра гэта. Гэтак жа ён здзівіў мяне, калі ў размове нехта з прыезджых запытаў пра Стэфана Баторыя.

Са студэнцкіх гадоў мы хадзілі на пасяджэнні літаратурнага аб'яднання пры газеце "Гродзенская праўда", пакуль іх праводзіў Быкаў. Гэта адбывалася на другім паверсе дома, дзе цяпер знаходзіцца кантора друкарні. А пакой Быкава быў справа ў кутку, там сядзела некалькі супрацоўнікаў.

Літаб'яднанне як грамадскую нагрузку ён вёў, каб усё было больш-менш прыстойна. Ахвотнікі пакрытыкаваць былі, дазваляў крыкунам выкрычацца. Сам выступаў у канцы, нібы нічога асаблівага не казаў, а казаў усё, што трэба было. Яго агляды, знешне фармальныя, мелі праграмнае ўздзеянне на ўсю далейшую творчасць. І літстаронкі, укладзеныя ім, у тых умовах — гэта была рэгіянальная літаратура. Але за аўтараў ён нічога не "дацягваў", не правіў.

Аднойчы пахваліў мяне. Кажа: "Ты склала гэту паэмку, як назбірала сунічак, высыпала іх у вядзёрка, атрымалася поўнае з вяршком".

Я часта ў Быкавых у кватэрах не бывала, паважала іх прыватнасць. На вуліцу Алега Кашавога, якая цяпер Вялікая Траецкая, д.28, кв.20 зайшла я з Ларысай Антонаўнай Геніюш, калі яе не пускалі ў Беласток па тэлеграме лекараў пасля аперацыі сына Юркі. Не дала рады яе супакоіць, а Васіль супакоіў, загаварыў, напаіў гарбатай. Правёў нас да вуліцы Савецкай і пацалаваў яе на развітанне.

У лепшую, чатырохпакаёвую кватэру я заходзіла разы са два. Памятаю быў у Гродна Валодзя Кудзінаў і запрасіў мяне схадзіць з ім да Быкава.

Быкаў нас чакаў. Бегаў на кухню, выносіў надта смачныя бутэрброды з вяндлінкай, а пасля стаміўся і кажа: "У вас, рабяты, надта добры апетыт". Потым нечакана запрасіў нас пакатацца па Нёману. У Гродне была "лодкавая ліхаманка". Быкаў меў сваю маторку. Кудзінаву трэба было вяртацца ў Мінск. Быкаў пазваніў Валянціну Чэкіну, свайму "аружаносцу". Пракаціў ён тады мяне аж да Мяловых гор — цяпер іх усе выкапалі! — напаіў там кавай з дымком...

Увесь час я спрабавала напісаць верш пра лодку Быкава. У 1996 годзе па дарозе ў музей (а гэта 10 мінут пешкі) у мяне гэты верш вырас:

*Там лёд расстрэльвае вясна,*
*Чакаем добрую паводку.*
*Ужо Васіль малюе лодку.*
*Прыбег на Нёман давідна.*
*Ён выдаў кнігу не адну.*
*Адзін, як Нёман, задумлёны.*
*Над імі каркаюць вароны,*
*Чытае свет яго вайну.*
*А тут не свет — а блізкі Свет.*
*Усіх бы тут пазамяталі.*
*Тут не ў пашане божы талент.*
*Людзей не любіць самаед.*

Верш я напісала, можна сказаць, прарочы, але лепей бы ўсё было іначай, лепей бы Васіль Быкаў не ездзіў па далёкіх еўрапейскіх месцах, а жыў дома, быў у цяпле, у шчасці...

Пасля размовы з Быкавым тады ў 70-я гады я напісала вершы, якія былі працягам нашых размоваў. Гэта былі найлепшыя мае гады. Але я не ведала аб гэтым. На аднатомніку Васіль напісаў такі аўтограф: "Няхай табе, Данута, будзе добра і шчасліва". Мне ў той час было добра і шчасліва, нягледзячы на нацыянальны прыгнёт, на здзекі з мяне, паэткі і настаўніцы беларускай мовы, на спецыяльныя праверкі маіх урокаў, нягледзячы на скандалы свекрыві... Шчасце мае двайстае дно, як цёзка маёй хатняй рэчкі, — латгальская Гаўя.

Жанчын-паэтак крыўдзяць, успрымаючы нярэдка іх эмацыйнасць, як сексуальную заклапочанасць. А ім трэба, каб іх выслухалі, пачулі і зразумелі, каб паважна ўспрымалі. Таму Васіль Быкаў у маім правінцыйным жыцці быў падарункам неба. Гледзячы збоку, і Быкаву ў Гродне было даволі камфортна. Ён здолеў так укласці быт, каб быў час на пісанне. Але горшага часу, як той, мусіць, для пісьменніка і прыдумаць нельга.

Пісьменніцкая праца не лічылася працай. "Где работаете?" — пытаўся мент, калі ты пераходзіў вуліцу на чырвоны святлафор. "Я пісьменнік". — "А, так вы и нигде не работаете..."

Праца ў газеце была яшчэ горшай, нават цяпер журналісты сядзяць у кабінетах у рабочы час, калі ў свеце яны бегаюць, ездзяць, лётаюць, шукаюць тэмы.

Быкава выбіралі ў Саветы, хоць ён ніколі не сядзеў на сесіях і быў непартыйны. У яго былі паважаныя людзі сярод франтавікоў, асабліва тыя, хто пісаў праўдзівыя ўспаміны. Але найболей франтавікоў было такіх, якія Быкава ненавідзелі. Быкаў пісаў пра вайну, у якой удзельнічаў на першай лініі фронту. Пісаў, як дрэнна на вайне тым, хто забівае і каго забіваюць. Як гадка праяўляецца на вайне тое дрэннае, што закладзена ў чалавечай прыродзе. Але некаторым на вайне было добра, яны вайну выкарысталі для дабрабыту і кар'еры.

Быкаў сам выбраў Гродна, горад, які ўбачыў да вайны мімалётам, які хоць звонку быў еўрапейскім — два замкі, святыні, пліты брукоўкі з надпісам "магістрат Гродна", ціхія вулкі, глухія дворыкі. Цяпер яны сталі скразняковымі. Толькі ў першыя гады ён здымаў прыватна кватэры не ў цэнтры. А пасля жыў і працаваў у старым горадзе, што вельмі важна для творцы.

Мне нядаўна расказала адна сяброўка, што яна купіла лекі ў Піцеры па рацэпту з Гродна. Аптэкар прачытаў і ўголас выказаўся: "Гродно... Это в каком же захолустье!" А яна яму кажа: "А гэта там, куды барока не спазнілася..." Дык вось, барока прыцягнула Быкава. Ён на вайне пабыў у Еўропе і ведаў, як там жывуць гараджане. Не хацеў ён вяртацца ні ў галодны калгас, ні ў разбураны Віцебск. Быкаву хацелася спакойна заняцца пісьменніцкай працай, хоць, магчыма, ён пра гэта думаў толькі падсвядома.

Але і хеўра савецкіх вайскоўцаў са сваімі галоднымі кланамі таксама выбрала Гродна. І вяскаўня "самаедаў" палезла ў горад на пасады і кватэры. Мясцовыя палякі і габрэі, каго не выбілі і не вывезлі, схаваліся хто куды, перапісаліся пацішу на рускіх. Тут вайна не скончылася, набыла іншую форму, з застарэлай прагай ахвярнай крыві. Быкаў ім падыходзіў на ахвяру. Але ён быў салдатам і ўступіў з імі ў бой да канца — і перамогай былі ўсе яго кнігі, якія зацікавілі вялікі свет.

Чым болей яго друкавалі, чым болей аб ім пісалі ў Маскве, у Еўропе, тым цяжэй прыходзілася мясцовай партыйнай і ваяцкай хеўры. Быкаў ім быў ужо не па зубах. Што яны маглі, дык гэта выбіць акно, пазваніць і сказаць гадасць, падскочыць знячэўку на вуліцы.

Пасля з'езда пісьменнікаў, калі Быкаў і Карпюк мелі надта вострыя выступленні, папрасілі, каб я схадзіла да сакратара абкама даведацца, ці пра іх выступленні ўжо данеслі. Я схадзіла. Сакратар сыграў ролю клапатлівага бацькі, сказаў, каб не хваляваліся, усё добра, няхай спакойна застаюцца пры сваіх жонках. Тыя выступленні потым абмяркоўвалі на актывах, асуджалі аўтараў, а Карпюк іх распаўсюджваў як самвыдат.

Быкаў вырастаў з нашага горада, як падлетак вырастае з адзення. Ён ужо рэдка бываў дома. Асабліва, калі па яго аповесцях пачалі здымаць фільмы. Яму не падабаліся сцэнары і здымкі, але разумеў, што трэба ісці на кампраміс з сабой, каб паладзіць з рэжысёрам.

У Маскве ён быў больш на месцы, чым у Гродне. Акопная проза таксама патрабуе "ротаў" і "батальёнаў". У яго батальёне былі Твардоўскі, Бакланаў, Бондараў, Ананьеў... Аднойчы падараваў мне фота Салжаніцына — сам яго сфатаграфаваў. У замежных паездках з маскоўскімі калегамі таксама знаходзіў роўных сабе пісьменнікаў сусветнай хвалі.

Ён вырастаў і з Беларусі. Гродна для яго рабілася нейкім дачным участкам, куды прыязджалі перакладчыкі, калегі адусюль. Калі гэта быў Макаёнак, то яны запрашалі і мяне павячэраць. Калі Быкаў вяртаўся ў Гродна, званіў мне, і мы сустракаліся на левым беразе Нёмана каля помніка Гарнавых, які на тым месцы загінуў у 1939 годзе. Калі мы выходзілі па званку адначасна, нашы дарогі сходзіліся ў гэтым месцы.

Левы бераг Нёмана быў дзікім, там зручна было ціха размаўляць. У сярэдзіне 70-х надта ўжо збіралі тэчкі пра такіх літаратараў, як Быкаў. Ён паўтараў не раз, што за яго прыватным жыццём сочаць у замочную шчыліну. Ён апавядаў пра маскоўскія падзеі, пра высылкі, псіхушкі.

У той час ЦК практыкавала лісты ў асуджэнне пэўных вялікіх людзей. Быкава пэцкалі гэтымі лістамі, паведамляючы па тэлефоне, што будзе і ягоны подпіс пад лістом. Алесь Адамовіч паўжартам казаў, што Быкаў не баіцца ні ЦК, ні крытыкі, а баіцца Дануты. Але я не спытала ні разу ў яго пра тыя ганебныя подпісы. Мне было лягчэй. Я ж не мела такой славы і ігнаравала партыйных і школьных начальніц, не думаючы пра вынікі. Мусіць, гэта крыху бянтэжыла майго літаратурнага настаўніка, які сам заклаў у маю свядомасць "праграму", а пасля пра гэта забыўся.

Тэмпы яго літаратурнага ўзыходжання былі надта крутыя, але ён не хаваў ні ад каго сваёй працавітасці, прафесійнасці, даваў усім добры прыклад...

Што было б, каб у нас ён не з'явіўся? Сцэнары жыцця піша Бог. Але Быкаў з'явіўся, адбыўся. Ён збіраў вольны вецер і прыцягваў у нашы правінцыйныя скразнякі. Быў прыгожым святам, дзеля якога хацелася выйсці ў горад і яго там сустрэць.

Доўгую дарогу ў літаратуру ён спланаваў і прайшоў сам. Нобелеўскую прэмію, мусіць, у той жыццёвы праект не заклаў, улічваючы, што жыве не ў вольным грамадстве, не ў суверэннай дзяржаве.

Каб беларусы былі на ўзроўні сваіх суседзяў, Быкаў мог бы быць першым прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Ён прыехаў паміраць у Мінск, бо верыў у будучыню Беларусі. Народ праводзіў яго ў прытулак вечных сноў, а ён з труны, як Купалаў ганец з паэмы "На куццю", "відзеў, што яны ўсе жывы... Аддайце славу нашу нам! Іх вусны бледныя шапталі"...

Суправаджалі яго да Бога святары абодвух каталіцкіх абрадаў — гэта прароцтва будучай рэлігіі ўваскрэслай Беларусі.

У Гродне расце дуб, пасаджаны Васілём Быкавым, які аберагаюць ягоныя ўнукі, яго жывая кроў. Няхай прадаўжаецца іх род і дае свету новых геніяў, яднае Беларусь...

*Гродна.*

СПОРТ

## У футбольным чэмпіянаце краіны — трохуладдзе

У сямі гарадах Беларусі прайшлі матчы 10-га тура нацыянальнага першынства па футболе ў вышэйшай лізе. Лідэры чэмпіянату атрымалі перамогі. Жодзінскае "Тарпеда" на сваім полі перайграла "Славію" (Мазыр) — 3:1 (Зуеў, 35, 63, 67 — Кліменка, 68). Мінскае "Дынама" выйграла ў Магілёве ў "Дняпра-Трансмаша" — 1:0 (М.Цыгалка, 31), а сталічнае "Тарпеда-СКА" — у гасцях у землякоў з МТЗ-РІПА — 3:0 (Собаль, 15, Доўнар, 57, Макоўскі, 62).

Астатнія вынікі: "Дынама" (Брэст) — "Нёман" (Гродна) — 2:0 (Васілюк, 17, Кавальчук, 67).

"Гомель" — "Нафтан" (Наваполацк) — 2:2 (Георгіеў, 27, Гараўцоў, 88 — Сяднёў, 25, Стрыпейкіс, 74).

БАТЭ — "Лакаматыў" (Віцебск) — 3:2 (Бага, 75, 85, Рубненка, 88 — Калодзін, 49, 58).

"Шахцёр" — "Белшына" (Бабруйск) — 2:0 (Ганчарык, 76, Барэль, 79).

Матч паміж "Зоркай-ВА-БДУ" (Мінск) і "Дарыдай" (Ждановічы) адбудзецца 17 чэрвеня.

Становішча каманд: "Тарпеда-СКА", "Тарпеда" (Жодзіна), "Дынама" (Мінск) — па 22 ачкі, БАТЭ — 20, "Шахцёр" — 19, "Славія", "Гомель" — па 18, "Дарыда" — 14 (9 гульняў), "Дынама" (Брэст) — 11, "Зорка-ВА-БДУ" — 10 (9 гульняў), "Лакаматыў" — 9, "Дняпро-Трансмаш", "Нёман" — па 8, МТЗ-РІПА, "Нафтан" — па 6, "Белшына" — 5.

**Алег РАЯВЕЦ.**



КРЫЖАВАНКА

## «Перамога»

**Па гарызанталі:** 5.Афіцэрскае званне. 6.Адрывісты гук, шум ад удару. 9.Востры край шашкі. 10.Сукупнасць транспартных сродкаў спецыяльнага прызначэння ў войску. 12.Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. 14.Удзельнік Першай сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, нацыянальны герой Беларусі. 16.Імя піянера-беларуса, Героя Савецкага Саюза. 17.Сучасны зенітна-ракетны комплекс. 18.Умоўнае абазначэнне невядомай або знарок неназванай асобы. 19.Камандзір танка, экіпаж якога шаснаццаць гадзін змагаўся з ворагам у акупіраваным немцамі Барысаве, Герой Савецкага Саюза. 21.Ёмістасць для паліва ў танку, самалёце і інш. 23.Нанясенне ўдару сваім танкам, самалётам па варожай машыне. 25.Частка ўдарнага механізма ў ручной агністрэльнай зброі. 27.Беларуская падпольшчыца, Герой Савецкага Саюза. 29.Водная перашкода для наступаючых войскаў. 30.Імклівы напад, атака (перан.). 33.Смутак, няшчасце, мукі, якія прынеслі на акупіраваную Беларусь нямецка-фашысцкія захопнікі. 34.Перадавая пазіцыя абароны.

**Па вертыкалі:** 1.Пласкадоннае судна або плыт для пераправы цераз раку. 2.Баявы вокліч войск пры імклівым нападзе войск на праціўніка. 3.Генеральны план Гітлера па значным знішчэнні ўсходніх славян, перасяленні ў Сібір і астатніх — анямечванні. 5.Савецкі палкаводзец, які каардынаваў дзейнасць франтоў пры вызваленні Беларусі. 7.Двойчы Герой Савецкага Саюза, былы камандуючы авіяцыяй Беларускай ваеннай округі (загінуў у аўтакатастрофе). 8.Воінскае падраздзяленне палка. 11.Тое, што і тэлефакс. 13.Народны паэт Беларусі, аўтар зборніка вершаў "Острите оружие". 15.Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, народны пісьменнік Беларусі, аўтар рамана "Глыбокая плынь". 16.Лётчык-беларус, які стаў першым з беларусаў Героем Савецкага Саюза. 20.Цвёрды мінерал, які выкарыстоўваецца ў тэхніцы. 22.Раман Янкі Маўра. 24.Цэнтр чаго-небудзь (кніжн.). 26.Пастанова вярхоўнага органа ўлады, якая мае сілу закона. 27.Рухавік танка, самалёта. 28.Сканцэнтраваныя ў адным месцы ўзброеныя сілы для рашучага ўдару. 31.Моцны артылерыйскі абстрэл пазіцый, які паслядоўна перамяшчаецца (перан.). 32.Дакумент, які падпісаў Маршал Савецкага Саюза Г.Жукаў аб поўнай капітуляцыі фашысцкай Германіі.

**Склаў Уладзімір ГОЛУБ.**

### Адказы на крыжаванку, апублікаваную ў №105

**Па гарызанталі:** 2.Ура! 5.Машэраў. 8.Мазурук. 9.Каманда. 11.Іпа. 13.Роў. 14.Камарын. 15.Галун. 16.Талаш. 19.Талаліхін. 22.Слоўнік. 23.Міна. 24.Атам. 25.Букса. 27.Кніга. 28.Сероў.

**Па вертыкалі:** 1.Картэж. 3.Мазураў. 4.Таварыш. 6.Азімут. 7.Снарад. 8.Мараль. 10.Армада. 12.Васілеўскі. 17.Камса. 18.Бірка. 20.Смірноў. 21.Абарона. 25.Бак. 26."Аса".

# Алесь Пушкін — бацька беларускіх Tattoo

Зразумела, гаворка ідзе не пра Аляксандра Сяргеевіча, які хоць і меў беларускія карані, але стаў расійскім класікам і пасля пакутлівага блукання вярнуўся ў сталіцу Бацькаўшчыны ўжо ў забронзавелым выглядзе — помнікам "работы" маскоўскага мэра Лужкова, а пра самую каларытную постаць сучаснага беларускага мастацтва — Алеся Пушкіна, жыхара мястэчка Бобр, што на Міншчыне, а па сумяшчальніцтве — грамадзяніна Сусвету. З тым удакладненнем, што ў цэнтры гэтага Сусвету годна месціцца Беларусь, а ўвесь астатні свет мусіць, згодна з субардынацыяй, пакорліва круціцца вакол яе, як грамада планет вакол Сонца. Дазволю сабе выказаць меркаванне, што на ідэйна-віртуальным узроўні Алесь здзейсніў тое, што ніяк не можа зрабіць на ўзроўні вульгарна-матэрыяльным ягоны цёзка і палітычны апанент Аляксандр. Бо Алесь бачыць у цэнтры Сусвету Беларусь, між тым як Аляксандр — сябе. Акрамя таго, усё бачыць Бог і спрыяе справядліваму.

Гэты ўступ патрэбны, каб патлумачыць ролю і месца Алеся Пушкіна ў сённяшніх культурніцкіх варунках. Яму належыць шэраг навацый, якія аб'ектыўна ўводзяць Беларусь у сусветны культурніцкі кантэкст, ці, прынамсі, даюць спадзяванне на тое, што наша месца там ужо ніхто са спрытных суседзяў не зойме. Апошнім часам Алесь прыйшоў да высновы, што за глабальнымі праектамі нельга забываць і пра канкрэтнага паспалітага беларуса. Добрая справа — распісаць храм, аздобіць тэатральны спектакль альбо кнігу вершаў, напісаць палатно ці зладзіць перформанс, якія стануць для грамадства тэстам на маральнасць. Але ж канкрэтны чалавек сярод побытавага тлуму можа застацца да ўсяго гэтага абыякавым.

Выйсце на гэтага ўмоўна-канкрэтнага чалавека Алесь вырашыў здзейсніць праз сапраўды народную форму мастацкай творчасці, якой з'яўляецца татуіроўка (татуаж, tattoo). Доўгі час класікаю жанру тут былі брутальныя тэксты накшталт "Не забуду мать родную" альбо "Нет в жизни счастья", часта ў спалучэнні з вульгарна-эратычнымі малюнкамі. Увогуле гэтае мастацтва моцна засмечана крымінальнай рамантыкай. А зараз яе змяняе маргінальная эстэтыка "масавай культуры". І тое, і другое для Алеся непрымальнае. Цела, як і жыццё, даецца чалавеку аднойчы. І зусім не для таго, каб крэмзаць яго ідыёцкімі тэкстамі і выявамі.

Дзеля прапаганды здаровага напрамку ў беларускім "tattoo" беларускі Пушкін здзейсніў перформанс-прэзентацыю свайго тэматычнага зборніка **"Tattoo на тэмы творчасці Уладзіміра Караткевіча".** Мастак прапаноўвае гледачу, схільнаму да мастацкіх эксперыментаў над уласным целам, татуажную трактоўку вобразаў і сюжэтаў са спадчыны слыннага беларускага рамантыка — "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Чазенія", "Краіна Цыганія", "Ладдзя Роспачы"... Шэраг іншых сюжэтаў маюць да творчасці Караткевіча дачыненне ўскоснае, але да беларускай патрыятычнай справы — непасрэднае. Гэта "Пагоня", "Белая вежа", "Полацкая Сафія".

Паколькі справу пераўтварэння свету на добры лад трэба пачынаць з сябе самога, Алесь прадэманстраваў гасцям прэзентацыі татуіроўку свайго аўтарства з выяваю Рагнеды, маленькага Ізяслава з мячом у руцэ, крыжам Святой Еўфрасінні і надпісам "Беларусь перадусім", выкалатую на сваім целе, над сэрцам.

Прыгаданая імпрэза адбылася 15 чэрвеня падчас урачыстага адкрыцця "Дызайн-біржы" ў выставачным цэнтры на вуліцы Я.Купалы. Працаваць "біржа" будзе да 18 чэрвеня. Такім чынам, цікаўныя змогуць пазнаёміцца і з новай з'явай у творчасці Алеся Пушкіна (стэнд мастака ў канцы залы), і з тым, што яшчэ ёсць вартага ў нашым візуальным мастацтве.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## Памятаем Еўфрасінню Полацкую!

*У Мінску, у Палацы мастацтва, адкрылася выстава жывапісу ўдзельнікаў X дзіцячага міжнароднага пленэра, прысвечанага нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай.*

Гэтая творчая акцыя праводзілася з 4 па 15 чэрвеня ў Мінску і Полацку пры падтрымцы Беларускага саюза мастакоў, Міністэрства адукацыі, Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці вучняў і Беларускага дзіцячага фонду.

У экспазіцыі — каля 60 работ, у якіх адлюстраваны ўвесь свет дзіцячых уражанняў: прырода ў розныя поры года і розны час сутак, самотны спадарожнік, храмы і саборы, чароўны ручай і дрэва, казачныя замкі і цемрадзь невядомасці, наваколлі Полацка, дно мора і бераг Заходняй Дзвіны, агонь і рознакаляровы букет, паласатае аленяня і песні салаўя, "дастаткова вясёлы кот" і "кот, які гуляе", "вусень шчасця" і танец матылькоў, сон і месяцавае святло, восеньскі сад і пустыня, міраж і прароцтва, дарога і адбітак.

Выстава будзе працаваць да 21 чэрвеня.

**Марат ГАРАВЫ.**

**18**
чэрвень

**ПЯТНІЦА**
Усх. 4.37 Зах. 21.45
Даўж. дня 17.08
Маладзік
17 чэрвеня



## Пятница, 18 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30, 19.45** "Деловая жизнь".
**08.50** Выпускной экзамен по физике за курс средней школы в общеобразовательных и специальных заведениях.
**09.05** Футбол. Чемпионат Европы. Хорватия—Франция.
**11.05 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.15** "Земельный вопрос".
**12.40 "Государственная граница". "Мирное лето 21-го года".** Сериал.
**14.05** "Белорусские мастер-классы Николая Баскова".
**14.15** "Все нормально, мама!".
**15.10 "Великий Мерлин".** Сериал.
**16.05** "5x5".
**17.05** "Звездный дождь".
**18.05** "Специальный репортаж".
**18.20** Футбол. Дневник чемпионата Европы.
**18.55** Футбол. Чемпионат Европы. Болгария—Дания.
**20.55** "100 шагов к Олимпу".
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж".
**22.00 "Государственная граница". "Восточный рубеж".** Сериал.
**23.30** Футбол. Чемпионат Европы. Италия—Швеция.
**01.15** "Клип-обойма".

**ОНТ**

**По Минску и Минской области с 09.05 до 15.50 — техническая профилактика.**
**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.30** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дом". Реалити-шоу.
**10.40** Мультсериал.
**15.50** Прогулки с чудовищем". Док.фильм.
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Сканер".
**18.20** "Без срока давности".
**18.50** "Поле чудес".
**20.00** Время.
**21.05** "Телевизионная национальная премия в области популярной музыки-2004".
**23.45 "Королевская кобра".** Триллер.

**РОССИЯ**

**07.45 "Гонки по вертикали".** Сериал.
**08.55** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**09.50, 12.45** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 18.00** "Вести".
**10.30, 18.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 16.10 "Команда".** Сериал.
**11.50 "Ундина".** Сериал.
**17.05 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**18.50 "Соммерсби".** Драма.
**21.00** Концерт.
**22.50 "Непрощенный".** Вестерн.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.35 "Рафферти".** Сериал.
**09.35** "Свет далекой звезды. Анатолий Лелявский".
**10.05, 18.25** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.30, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 12.50** "Обычный необычный день".
**11.50 "Руины стреляют".** Худ.фильм.
**13.20** Мультфильмы.
**14.10** "Время кино".
**15.05** "Учительская".
**15.15** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.30** "Из архивов БТ". "Трибунал".
**16.55 "Война и мир". "Пьер Безухов".** Киноэпопея.
**18.50 "Никто не заменит тебя".** Драма.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Баскетбол. НБА. Финал.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Фактор страха".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол. Расследование".
**18.35** "Свобода слова". Ток-шоу.
**19.55 "Никогда не говори "никогда".** Приключения.
**22.45** Бокс. Лучшие бои. Костя Цзю — Бен Таки.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 18.00** Минщина. Люди, события, факты".
**06.40** "Утро столицы".
**07.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**С 08.00 до 16.00 — техническая профилактика.**
**16.05, 23.10** "Технология".
**16.15** "Тема дня".
**16.50** "Турпоход".
**17.00** "Классика юмора".
**18.15** "Светская хроника".
**18.30 "Ангел на дорогах".** Сериал.
**20.10** "Минск и минчане".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Автопанорама".
**20.55 "Мои пять жен".** Комедия.
**23.20** "Реактивный бокс".
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00 "Детям до 16-ти".** Мелодрама.

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 17.00 "Моссад".** Сериал.
**07.50, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.00 "Доктор Дулитл".** Комедия.
**09.30** "Знакомьтесь, Беларусь!"
**09.45, 19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Джеймс Бонд — агент 007".** Приключенческий фильм.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Фантомас разбушевался".** Комедия.
**19.40** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Холодный пот".** Триллер.
**09.40** "Европейские ворота России".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05** "Доходное место".
**11.10** "Наша версия".
**11.50** "Денежный вопрос".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30 "Неприрученная Амазонка".** Сериал.
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** Мультфильмы.
**16.00 "Расследование Элоизы Ром".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Соучастие в убийстве".** Детектив.
**21.40** "Народ хочет знать". Ток-шоу.
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45 "Рокко и его братья".** Драма.
**02.40** "Мода non-stop".

**EUROSPORT**

**08.00, 09.30, 13.30, 17.00** Футбол. Команды ЕВРО-2004.
**08.30, 00.15, 01.30** Футбол. ЕВРО-2004. Чемпионат Европы в Португалии.
**10.30, 23.45** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**11.00** Пляжный волейбол. Мировой тур в Японии и Китае.
**12.15** Олимпийские игры. Эстафета олимпийского огня.
**12.30** Футбол. Легенды чемпионатов Европы.
**14.00** Теннис. Турнир АТР в Голландии.
**15.30** Теннис. Турнир WTA в Великобритании.
**17.30** Велогонки. Тур Каталонии.
**18.30** Снукер. Турнир в Уэльсе.
**21.00** Новости футбола.
**21.15** Самый сильный человек. Кубок мира в Польше.
**22.15** Самый сильный человек. Кубок мира в Финляндии.
**23.15** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**01.15** Новости "Евроспорта".

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 530 экз. Заказ № 671.